# ГУЛЬТАЯМ НЯ ТРЭБА ЕСЬЦІ.

## ПЕСЕНЬКА ДЛЯ МАЛАЛЕТАК.

Са-бя-ром-ся гра-ма-до-ю ды за пра-цу ўсёй сям-ё-ю!

Зо-ся, Ма-ня, Кось-ця, Стась, а ска-жэ-це, дзе Іг-нась?

Ён ска-заў, што йдзе гу-ляць
і ня бу-дзе пра-ца-ваць.
А я-му мы ад-ка-за-лі,

у-се ра-зам за-кры-ча-лі:
„Ну й вы-ходзь, са-бе, вы-ходзь
да нас бо-лей ня пры-ходзь!

Та-кім з на-мі ня-ма месц,
гуль-та-ям ня трэ-ба есьць“

29
56

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 2-гі

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . . | 15 к. |
| На 3 м-цы . . . | 45 к. |
| На 6 м-цаў . . . | 90 к. |
| На 1 год . . . | 1 р. 80 к. |

№ 5 Май 1930 г.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25

Г.П.Б-ка обяз. экз.
Лнгр. 1930 г.
Акт № 1331

## БУДАЎНІКІ

Верш *А. ДЫЛА*



Цэглу для працы ён
дзецям вязе.
Трамваі чырвоныя Зося
малюе,
На трактары Сёма ў
колгасе працуе.
Будуем, будуем, бу-
дуем
І дружна ўсе разам
працуем!

Майструюць, працуюць ахвоча
Маленькія дзеці рабочых.
Машыны, колгасы, заводы...
Шмат для усіх тут работы!
З кубікаў Янка складае завод,
Прыгожы майструе Адась са-
малёт,
Алесяў цягнік гэтак шпарка
ідзе,






# Як дзеці яблыньку ратавалі

**Апав. АКСАНЫ В.** **Мал. ВАРАНЦОВАЙ.**

Усім весела і радасна вясною. Толькі яблынька, што супроць ганачку расьце, штосьці невясёлая ды сумная стаіць. Што з ёю сталася?

Вось я і раскажу, што сталася з яблынькаю, чаму яна такая сумная.

Стаяла яна летась вясёлаю, з зялёнымі лістамі, а між лістоў хаваліся чырвоныя яблычкі. Смачныя былі яблычкі і сама яна прыгожай была, дзеці яблыньку вельмі любілі.

Лятаў навакол яе матылёк... Прыгожы такі матылёк, і падумаць нельга, каб ад такога прыгожага матылька ды такая шкода вялікая сталася.

Падабалася і матыльку стройная кучаравая яблынька. І вырашыў матылёк, што ў яе густое лісьцё зацішна ды спакойна будзе пакласьці свае яечкі. Ён і паклаў.

А з яечак выйшла вусень. Тут якраз усхадзіліся ўжо і маразы. Спляла вусень сабе


*Жук-даўганосік.*

гнязьдзечка на зіму. Многа выйшла вусені на яблыні і ўся яна нарабіла сабе гнязьдзечак на зіму.


*Вусень.*

Аж вось і вясна прышла. Выпусьціла наша яблынька пупушынкі. А тут павылазіла праклятая вусень з гнязьдзечак і пачала ўядацца ў пупушынкі ды выгрызаць у іх ямкі.

А тут яшчэ лазіць жук-даўганосік ды зьядае маладое лісьцейка. Сумуе яблынька.

Гулялі ў садку дзеці. Падбеглі да свае любімай яблынькі.

— Глядзеце, што такое?—крычыць Ганулька,— нібы гнязьдзечка маленькае. І многа іх, многа!

Падышла настаўніца, паглядзела ды кажа:

— Кепска, дзеці, нядобрая справа з нашай яблынькай. Гэта вусень нарабіла сабе гнёздаў, а сама лазіць ды аб'ядае лісьцё і завязь. Трэба як мага скарэй наш садок чысьціць.

На другі дзень раніцай выбеглі дзеці ў садок з рыдлёўкамі, насілкамі, ножніцамі і мётламі. Зграбалі старое сухое лісьцё, у якім многа было ўсялякіх чарвячкоў, гнёздаў вусені. Абкапвалі дрэвы ды абмазвалі іх вапнаю з глінаю, каб вусень не напаўзала, а гнязьдзечкі абразалі ножніцамі. А настаўніца яшчэ апырскала яе нейкай рошчынай.

Гэтак выратавалі дзеці яблыньку.





Я. ШКАДАРЭВІЧ

# Трактары на граніцы

У школе настаўніца спытала:

— Ці ведаеце, дзеці, што да нас заўтра ў мястэчка Дрыса прыедуць дзесяць трактароў?

— Не, ня ведаем. Ня чулі яшчэ, — адказалі вучні.

— А хто з вас калі-небудзь бачыў трактар?

— Ніхто ня бачыў, дзе-ж нам яго бачыць.

— Тады заўтра пойдзем глядзець іх,— сказала настаўніца.

— Пойдзем, пойдзем, усе пойдзем!— закрычалі вучні.

А маленькі Андрэй, якога называлі „сьмельчаком“, прагаварыў:

— Што-б там ня было, а я ўсё роўна праеду на трактары. Хоць крышачку, але праеду.

## ТРАКТАРЫ ПРЫВЕЗЬЛІ

Раніцаю, як толькі паказалася сонейка, Андрэй быў ужо на нагах. Хутка апрануўся і вышаў на вуліцу. На вуліцы было яшчэ мала людзей. Андрэй спаткаў свайга таварыша, Мішку, і яны разам пашлі ў школу. У школе настаўніца пачала расказваць пра трактар, яго карысьць для сельскай гаспадаркі. Усе слухалі надта ўважліва, толькі Андрэй кепска слухаў. Ён увесь час глядзеў у вакно, прыслухоўваўся, ці ня гудуць ужо дзе трактары.

І раптам нехта з вучняў выкрыкнуў:

— Ціха, ша! Здаецца, нешта недзе гудзіць... ці не трактары прывезьлі ўжо?

— Але, трактары,— адказала настаўніца.

Вучні вышлі са школы, пастроіліся ў рады, узялі з сабою чырвоны сьцяг і пашлі ў цэнтр мястэчка.

— Паглядзі, Мішка, колькі людзей ідзе за трактарам, во людзей, ніколі гэтулькі ня было. Усе местачковыя, і нават з вёскі папрыходзілі,— казаў Андрэй свайму таварышу.

## А НА ТЫМ БАКУ ГРАНІЦЫ

З вёскі Слабада і іншых таксама павыходзілі сяляне і з дзівам глядзелі на Савецкую Дрысу, дзе грукацелі трактары.

Але нечакана зараз-жа зьявіліся там конныя польскія жандары, якія **нагайкамі пачалі хвастаць сялян і пазаганялі іх у хаты. Жандары загадалі сялянам завесіць дыванамі**



Сьвята першай баразны ў вёсцы.

Фото У. СЕМЯНЯКІ.

**вокны ў хатах і не глядзець на Савецкую Беларусь.**

І тады сяляне ціхенька адчынялі ў вокнах форткі і ўвесь час глядзелі на трактары, як яны стройнай колёнай, адзін за другім, выехалі з мястэчка Дрыса і на шырокім колгасным полі пачалі араць зямлю і зьнішчаць межы.

Аб усім гэтым бачыў Андрэй і яго таварышы, бо з берагу Заходняй Дзьвіны, на якім стаіць мястэчка Дрыса, вёска Слабада відаць як на далоні.

## РУЙНУЮЦЦА МЕЖЫ.

А цікава-ж было глядзець як трактары працавалі на полі. Вось пакруціў трактарысты нейкую ручку і трактар загуў, а пасьля, ківаючыся, нібы гусь, пашоў па шырокім полі. Сотні людзей пільна сачылі за трактарамі, як яны ўзьнімалі цаліну, зьнішчалі межы.

— Мяжа памерла, казалі вучні.

Часамі трактар станавіўся, бо на полі былі мясьціны, дзе стаяла вада. Тады буксавалі заднія калёсы і трактар лез яшчэ глыбей у зямлю. Колгасьнікі і вучні падкідвалі пад колы трактара калы і сталёвы конь выскакваў з зямлі і зноў ішоў па полі, вярнуў цаліну. Час-ад-часу колгасьнікі і вучні паілі сталёвага каня халоднаю вадою,—ахалоджвалі радыятар трактара.

Тады падбягалі дзеці да трактара, аглядалі з усіх бакоў. Андрэй, падышоўшы да трактарыстага Пятруся Лапкоўскага, спытаў:

— Дзядзячка, ці ня можна крышку пад'ехаць на трактары?

— Можна. Ідзі сядай вось тут.

Андрэй хутка ўзьлез на крыло трактара, уляпіўся за яго рукамі і паехаў па калгасным полі, а дзеці ўсьлед за трактарам крычалі:

—Андрэй, злазь ужо, дай і нам трошкі пад'ехаць, і мы-ж хочам.

— Вось табе і трактар. Каб канём, дык на гэтай палосе корпаўся-б цэлы тыдзень, а 10 трактараў за адзін міг зааралі.

— Цяпер ня пойдзем да кулакоў, ня будзем прасіць іх дапамогі,—казалі колгасьнікі — беднякі, якія раней вымушаны былі здаваць сваю зямлю ў арэнду кулаком, прасіць у іх дапамогі.

* * *

Калі ўсе вучні сабраліся ў школу, Андрэй казаў:

— Цяпер я добра ведаю, якую вялікую карысьць можа даць трактар сельскай гаспадарцы. Ён палягчае працу чалавека, яму ня трэба ні сена, ні саломы, а толькі паболей газы падлівай.



Усе маёўкі працоўных у гэтым годзе праходзілі пад знакам колектывізацыі вёскі. Амаль на кожнай маёўцы самымі жаданымі гасьцямі і ўдзельнікамі былі трактары.



*Па дарозе ў колгас*

*ЎЛ. СЕМЯНЯКА*

# ДАПАМАГЛІ КОЛГАСУ

75 гаспадарак вёскі Каралёў Стан (Мен. акр.) аб'ядналіся ў колгас імя Леніна

Жылі добра, пакуль за колгас ня ўзяўся поп і мясцовыя кулакі.

Папу колгас не падабаецца таму, што колгасьнікі — сьвядомыя людзі і не паверацъ яго ашуканствам, а кулак таксама ня любіць колгасаў, бо ў колгасе кожны працуе сам на сябе, а кулак ніяк ня зможа зрабіць, каб колгасьнікі на яго працавалі.

І вось поп з кулакамі пачалі страшыць сялян, адгаварваць іх ад колгасу:

— Чаго вы сядзіце ў колгасе? Тут-жа ад вас адбяруць дзяцей. (Гэта пра дзіцячыя яслі). Выходзьце з колгасу, бо калі ня выйдзеце, дык ня буду за вас маліцца богу! — угаварваў поп.

Цёмныя, несьвядомыя сяляне падумалі, што поп і кулакі праўду кажуць. Узялі ды вышлі з колгасу. У колгасе засталося толькі 15 гаспадарак.

Зьбяднеў колгас імя Леніна. Прышла вясна, зямля не ўзарана, не засеяна. Каменьня на полі шмат. Ворагі колгасу — папы ды кулакі — пачалі ўжо радавацца, што ім удалося ашукаць бедных сялян.

Але радасьць іх была заўчасная. Даведаліся пра гэта піонэры і вучні Каладзішчанскае школы і на сваім сходзе ўсе дружна заявілі:

— Не дапусьцім, каб кулакі ды папы зьдзекваліся над беднатою! Дапаможам колгасьнікам падрыхтаваць поле да сяўбы!

І вось ледзь толькі разьвіднелася 14-га красавіка, усе каладзішчанскія дзеці, разам з старэйшымі, рушыліся на дапамогу колгасу імя Леніна.

Прышлі за 5 кілёмэтраў са сьцягамі і чырвонымі значкамі на грудзёх на палі колгасу і дружна ўхапіліся зьбіраць з поля каменьне, зьнішчаць густыя, шырокія межы індывідуальных (асобных) гаспадарак. Старэйшыя аралі і баранавалі.

Да вечара колгасная зямля была падрыхтавана да сяўбы. Сяляне, якія раней пакінулі колгас, цяпер ізноў прышлі ў яго. Яны заявілі, што больш ужо не паслухаюць хлусьні папоў і кулакоў.

Бедната сачыла за дружнаю колектыўнаю працаю і дзівілася, што колектыў — вялікая сіла. Чаго не зрабіў-бы адзін чалавек за доўгі час, тое лёгка зрабіў колектыў за некалькі гадзін.

# БЯРОЗКА

Апавяданьне **А. Дыла**



УЗІМКУ дрэвы ў лесе стаялі голыя, толькі дзенідзе зелянелі хвойкі. Пуста было ў лесе і ціха.

Але вось надышла вясна. Прыгрэла сонейка, зазелянелі лісточкі, зьявіліся першыя кветкі.

З зялёненькай траўкі выглянула пралесачка і заківала сваёй сіненькай галоўкай. А за ёю і іншыя кветкі параскідаліся між зялёных дрэў. Прыляцелі птушкі з цёплых краёў, і жаўранак весела засьпяваў сваю песеньку.

Ажыў лес. Лётаюць розныя матылькі, гудзіць працавітая пчолка: зум-зум-зум; зьбірае з красачак мядок. А якія-ж прыгожанькія стаяць бярозкі, зялёныя-зялёныя, а ствол белы. Павее вецярок, закалышуцца лісточкі і здаецца тады, што яны аб нечым шэпчуцца паміж сабою.

Піонэры вельмі любілі гэты лес. Улетку, пад ценем бярозак, будавалі яны свае палаткі, вучыліся тут, гулялі і любаваліся прыгожасьцю дрэў. Колькі тады было вясёласьці, гоману, як звонка гучэлі маладыя галасы!

Надышла Сёмуха (тройца). У рэлігійных людзей ёсьць вельмі шкодны звычай у гэты дзень: высякаць маладыя бярозкі і ставіць іх у хату.

І вось аднойчы пачуўся ў лесе грукат калёс. Прыехалі людзі з сякерамі. Бязьлітасныя людзі,

выбраўшы сярод бярозак самыя прыгажэйшыя, пачалі высякаць іх. Заскрыпелі дрэўцы і здавалася, што стогнуць яны, што просяць, каб ня губілі людзі іх маладога жыцьця. А бярозавы сок, нібы сьлёзы, ліўся з-пад сякеры.

Шмат было загублена маладых бярозак. Паклалі людзі бярозкі на вазы і павезьлі прадаваць у горад. А ў горадзе несьвядомыя, абдураныя папамі, людзі раскупілі гэтыя бярозкі, пастаўлялі іх па кутках у сваіх хатах.

Мінула некалькі дзён. Пасохлі лісточкі, сумна павісьлі сухія галінкі бяроз. І тады бярозкі павыкідалі на сьметнік, як непатрэбныя.

А на лета ў лес прышлі піонэры. Бачаць: няма кучаравых бярозак. Цёмныя людзі папсавалі лес, які мог прынесьці людзям шмат карысьці. І няма дзе цяпер адпачыць дзецям. Успомнілі яны вясёлыя дні, калі так прыгожа было ў лесе і як сумна цяпер, калі, замест зялёненькіх бярозак, стаяць голыя пянёчкі, нібы сірацінкі. І парашылі дзеці з усяе сілы змагацца з папоўскім дурманам, не даваляць несьвядомым рэлігійным людзям псаваць дарэмна лес.



Лес—наша багацьце.

# ХТО БЫЎ ШКОДНІКАМ?

*Апав. А. Ч.* *Малюнкі РОЗАНАВА*

Празьвінеў званок і дзеці ўсе шуснулі за дзьверы. Майскае вясёлае сонца вабіць да сябе, заклікае дзяцей.



Школьны сад і двор адразу-ж загаманілі на розныя галасы. У адным месцы, як мячыкі, скачуць хлопцы,— гэта наладзілася чыхарда. У другім— карагод, скокі... Усім весела і радасна.

Але вось неўзабаве ўсе замітусіліся, кінулі гульні.

— Што такое? У чым справа?

— Жаба!

— Жаба!

— Бі жабу!

Адусюль з крыкам ляцяць дзеці пад сьвіронак, адкуль Мішка выгнаў вялізную жабу.

Жаба, перапалоханая ад такога вэрхалу, кідаецца, як шалёная, ва ўсе бакі, але дружная грамада ўжо акружыла яе. Пасыпаліся, як град, каменьні, груды, палкі. Усё на бедную жабу...



Настаўніца пачула такі нязвычайны крык і борзьдзенька выбегла на двор.

— Што здарылася? Хто пабіўся?

— Ніхто, Ніна Аляксееўна.

— Гэта мы жабу забілі...

І дзеці ўсе з радасьцю кінуліся пахваліцца настаўніцы аб сваім геройскім і карысным учынку.

Мішка дык расштурхаў усіх і выбег наперад.

— Гэта я, цётка настаўніца, выгнаў яе з-пад сьвірна... Гэта я.

— Ціхаця, дзеці! — падняла руку настаўніца. Пахваліць вас няма за што. Вы зрабілі вялікую шкоду для свае школы.

— Што? Як?

— ? ? !

Дзеці ўзрушыліся. Ці ня здурнела іх любімая Ніна Аляксееўна. Якая гэта шкода, калі жабу забілі?!

— А вось што, дзеці. У нашым школьным агародзе водзіцца многа сьлізьнякоў, мошак і казявак. Усе гэтыя шкоднікі страшэнна псуюць гародніну, садавіну і пасевы. Зьнішчаць гэтых шкоднікаў лепш за ўсё могуць толькі птушкі і... **жабы!**

Дзеці аж раты паразяўлялі ад зьдзіўленьня. Вось дык навіна! Жаба — карыснае стварэньне!

Сорамна стала дзецям за свае геройствы. Мішка дык пачырванеў, бедны, ад сораму і адышоўся ў бок.

А настаўніца казала:

— У другіх дзяржавах дык нават грошы плацяць за жабаў... скуплёўваюць іх і пускаюць у свае агароды і сады.

— Ну, Мішка, будзеш больш біць жабаў, — жартуюць дзеці.

— А вы, — кажа Мішка, — хіба лепшыя? Усе вінаваты, усе ня ведалі. Цяпер гэтага ня будзе.



**Зрабеце самі сабе такія цацкі. Для гэтага, як відаць з малюнкаў, патрэбны толькі коркі, лушпавіньне ад яец, шышкі, папера, іголкі.**

# ДНЕПРАБУД

Нарыс А. Ч.
Монтаж А. ТЫЧЫНЫ



Дняпро — адна з вялікіх рэк нашага Саюзу. Але карысьці з Дняпра мала. Нават параходы ня ўсюды могуць хадзіць па гэтай рацэ. Вялізарныя каменныя парогі загарадзілі Дняпро. Нашчэнт разаб‘ецца параход, калі толькі трапіць у пастку гэтых парогаў.

А сіла Дняпра—**магутная сіла.** Толькі як заўладаць ёю?

І вось людзі выступілі на змаганьне з Дняпром, каб перамагчы яго, прымусіць яго сілу працаваць на сваю карысьць.

Пачалі будаваць праз усю шырыню ракі моцную і шырокую **гаць,** каб суняць Дняпро, перагарадзіць яму дарогу.

Тут-жа пачалі будаваць вялізарную электрастанцыю. У гаці пакідаюць толькі некалькі вузкіх праходаў для вады. Сюды, у гэтыя праходы, з магутнай сілаю памчыцца рака. Уляціць шырокі дужы Дняпро ў малую шчыліну — жалезную трубу. А ў гэтай шчыліне калясо зроблена — турбіна; нешта падобнае да калёс у вадзяным млыне, толькі памер і пабудова не такія. Калясо віхрам закруціцца ад сілы вады. А пры дапамозе каляса закруцяцца і машыны электрастанцыі, што выпрацоўваюць электрычную сілу.

**Электрычная сіла**—гэта і ёсьць тое, **за што** людзі змагаюцца з Дняпром.

Дастаць электрычную сілу можна і другім спосабам: апалам. Але апал (вугаль, дровы, торп) каштуюць надта дорага. А тут **вада,** што **нічога не каштуе** і можа выпрацаваць многа электрычнасьці.

Пры дапамозе электрычнасьці можна рабіць усялякую работу. І вось каля Дняпроўскай электрастанцыі разам з будоваю гаці робяць многа заводаў, якія будуць працаваць электрычнаю сілаю, здабытаю з Дняпра.

Цяпер на Дняпры, ля гораду Кічкасу, кіпіць праца. Будуюць электрастанцыю, заводы, канал. Усё гэта называецца „Днепрабудам“.

Днепрабуд будзе скончаны 1-га жніўня 1932 году. Уся Савецкая краіна з нецярплівасьцю чакае гэтага волата.

Нам вельмі многа патрэбна розных фабрычных вырабаў, каб пабудаваць новае, лепшае жыцьцё — соцыялізм.

А Днепрабуд дасьць нам сілу, якая здольна замяняць работу **36 мільёнаў** чалавек!

Днепрабуд будзе самай магутнай электрастанцыяй у Эўропе.

Дасьць самы **танны** электрычны ток у нашым Саюзе.

Кожны год зьберажэ **100 тысяч** вагонаў каменнага вугалю.

Такую нячуваную сілу мы будзем мець на Дняпры.

Уся пабудова Днепрабуду будзе каштаваць 600 мільёнаў рублёў.

Але гэтыя вялізарныя грошы з прыбыткам вернуцца праз некалькі год.











*1-2 — Дняпроўскія парогі.*
*3 — Пабудаваная гаць.*
*4-5-6 — Пад‘ёмныя краны, пры дапамозе якіх перакідваюць розныя цяжкія грузы.*
*7 — Амерыканскі пад‘ёмны кран — ЭКСКАВАТАР. Ён зараз чэрпае звыш 60 пудоў зямлі.*

*8 — Агульны выгляд Днепрабуду (модэль).*
*9 — Фабрыка-кухня на Днепрабудзе.*
*10-11-12 — Пры дапамозе электрычнасьці, здабытай на Дняпры, будуць працаваць заводы, фабрыкі, трамваі.*




**Апавяданьне С. Пакроўскай** **Малюнкі А. Тычыны**

Вецер сьвістаў на ўсю сілу. Калыхаліся елкі, рыпалі хвойкі. Зьверху няспынна сыпалася мяцеліца.

А ў мядзьведзіцы ў бярлозе было цёпла і ціха.

І вось тут і здарылася гэтая гісторыя. Было ў бярлозе двое, а стала пяць. Учора яшчэ тут спала толькі мядзьведзіца ды яе сынок, — двухгадовы пястун. А сёньня раптам хтосьці зашавяліўся, пачаў штурхацца каля тоўстага жывата мядзьведзіцы.

Нарадзілася ў мядзьведзіцы трое медзьвянят.

— У-у-у-уу! — заплакалі медзьвяняты.

Тут толькі яна і прачнулася. Мядзьведзіца як сьлед абнюхала іх, аблізала і давай карміць цёплым малаком.

Медзьвяняты былі маленькія, сьляпенькія, навялічкі з пацукоў. Умелі толькі ссаць ды спалі. Затое і расьлі яны ўвачавідкі.

Яны расьлі, а матка худняла. Добра яшчэ, што летась пасьпела да восені добра нажыравацца.

Праз тры тыдні медзьвяняты сталі відучымі. А яшчэ праз месяц падмок іх бярлог і мядзьведзіца выбралася з дзецьмі на сухое месца.

Вясна ўжо была ў поўнай красе. Гуртамі ляцелі з цёплых краін пералётныя птушкі. У лесе пачуліся песьні. Лезьлі з-пад зямлі вясновыя кветкі. На палёх зелянела рунь.

Мядзьведзіца з сынам дзень праводзіла ў гушчары. Назграбалі яны ў кучу сухога лісьця, на якім і забаўляліся медзьвяняты. Пястун капаўся ў зямлі, даставаў з-пад кустоў мясістыя карэнчыкі, еў шчаўе. А то раскапае муравейнік і засадзіць у сярэдзіну лапу. Як напаўзуць на лапу мураўі, ён — хап яе у рот. Зьліжа мурашак і зноў лапу ў муравейнік. Так і вывудзіць усіх мураўёў.

Уночы мядзьведзіца пакідала дзяцей з пястуном, а сама ішла

на рунь і пасьвілася там, як карова.

Толькі раніцай варочалася назад у гушчар. Пакуль яна забаўлялася з малымі, пястун ішоў гуляць і пад‘есьці ўсмак сьвежага зяленіва.

Да мая медзьвяняты зрабіліся, як футбольныя мячы, толькі калматыя.

Цяпер ужо яны не хацелі сядзець у кучы лісьця, а качаліся, як клубкі, за маткай і пястуном. Матцы цяпер прыходзілася ўвесь час сачыць за малымі. То ўкінуцца з галавою ў канаву, то загрузнуць у балоце, то залезуць у мураве йнік і пачнуць пішчаць ад таго, што мураўі іх пакусалі.

Нязначны шум у кустох — і матка ўстае на заднія лапы. Нюхае паветра, углядаецца, ці не пагражае якая-небудзь бяда.

Медзьвяняты ўсё падрасталі і падрасталі. Цяпер іх лёгка можна было адрозьніваць. Адно з іх стала таўсьцейшым за ўсіх. Другое крыху кульгала на правую нагу. У трэцяга ўся шыя





была белая. Гэтае медзьвяня больш за ўсіх надакучала матцы. Яно ніколі не сядзела на месцы.

Аднаго разу раніцай мядзьведзіца заўважыла — няма Белага Каўнерыка! А праз хвіліну яно моцна заскавытала недзе за кустамі. Мядзьведзіца кулём кінулася на крык.

Медзьвяня стаяла на краю палянкі на пянчуку, а з другога боку палянкі, разявіўшы рот, стаяў высокі хлопчык з вязанкай хворасту за плячыма.

Бураю рынулася мядзьведзіца на хлопчыка. Той ходу, — але куды там: хіба ад мядзьведзіцы куды ўцячэш?

Скок-скок-скок, — і вось яна ўжо за плячыма.

Ад сполаху кінуў ён вязянку, а сам — за дрэвы ды ў кусты. Вязянка затрымала мядзьведзіцу. Яна ўчапілася за вязанку, растрыбушыла і паляцела далей. Хлопчык шпурнуў ёй шапку. Мядзьведзіца і шапку разарвала, ды зноў за ім уздагон. Ён скінуў і рубашку. Мядзьведзіца спынілася і давай рваць рубашку. Парвала і зноў кінулася бегчы. Дагнала яна хлапчука на краю абрыва. Узьнялася ды калі дасьць яму лапаю ў патыліцу! Небарака так кумілём і пакаціўся па пяску ўніз. Ні жывы, ні мёртвы ляжаў хлапчук у даліне. Думаў: „вось і канец прышоў“!



Але мядзьведзіца ўсё чамусьці не паказваецца.

Час ідзе. Сабраўся хлопчык з духам. Узьняў галаву. Бачыць: няма нікога, і ў лесе спакойна. Устаў ён паціху ды скарэй дахаты, у вёску.

Шчасьце яго, што Таўстун з Крываножкам загаласілі. Пачула мядзьведзіца і пабегла назад да медзьвянят.

## ДЗІВАКІ

(*Жарт*)



**Я на рынак паслаў дзівакоў,**
**На расходы ім даў пятакоў.**
**Адзін пятак на мак,**
**Другі пятак на лак,**
**А трэці пятак так.**
**Па дарозе мае дзівакі**
**Пераблыталі ўсе пятакі.**
**Каторы пятак на лак,**
**Каторы пятак на мак,**
**А каторы так.**
**Толькі ўночы прышлі дзівакі**
**І прынесьлі назад пятакі.**
**— Выбачайце, — сказалі яны:**
**Мы забылі —**
**каторы куды.**
**Каторы пятак**
**на мак,**
**Каторы пятак**
**на лак**
**Каторы пятак**
**так.**



# СОВЫ

Апавяданьне **ЛЯСЬНІКА** Малюнкі **РОЗАНАВА**

## І. МАЛЕНЬКІЯ ЗЬВЯРКІ

Між сьвежых зялёных лістоў нехта глуха закрычаў:

— У-ху-ху! У-у!

Пачуўся цягучы сьвіст, і вялізная чорная птушка зьляцела з дрэва. Птушка шуганула ўніз і прапала ў густой цемры.

Мы з Лёнькам выскачылі з свае схованкі. Схованка наша была ў вялікім дупле старой ліпы. Тут мы часта адпачывалі ў час паляваньня.

— Гэта сава,— сказаў я, калі мы падбеглі да таго дрэва.— Гэта совы так сьвішчуць, я ведаю.

— Ані ні страшна,— заўважыў, адсопшыся, Лёнька,— у іх, значыцца, гняздо ў верхнім дупле. Заўтра ўдзень давай злазім, паглядзім.

Вялізарная птушка ўдзень здавалася шэраю, але морда ў яе ўсё-ткі, як у кошкі. Яна сядзела, вытрашчыўшы жоўтыя сьветлыя вочы, і, мусіць, нічога ня бачыла.

— Ну ты, страшыдла,— крычаў Лёнька,— пашла вон!

Толькі, калі Лёнькава палка са сьвістам замахалася ля савінай галавы, вялізная птушка зашавялілася і ссунулася ўніз, чапляючыся за гальлё і кусты.

— Гэта што-ж?—мармытаў Лёнька, адпаўзаючы ад дупля,—вот дзіва! Ніколі такога ня бачыў.



Я ўзьлез на яго месца і зірнуў у савінае гняздо. На дне дупля відаць былі нейкія стварэньні, у белым пуху, ані не падобныя на птушак. Стаяць на

касьцістых задніх лапах, а дзе ў іх пярэднія? Нават дзюбаў няма, нейкі мяккі рот вісіць, у ім язык відаць.



— Ня птушкі, — кажу я, — зьвяркі нейкія. Сава, значыцца, у дуплё чужое залезла.

— Гэта савяняты, — здагадаўся Лёнька, ужо стоячы на зямлі, — іх лёгка забраць, толькі карміць чым? Малыя вельмі, паздыхаюць.

— Давай лепш сачыць, як яны расьці будуць.

Так мы і зрабілі.

Мы дачакаліся, што дзіўныя стварэньні сталі падобнымі на птушак. Белы пух іх зьмяніўся на шэрае пер'е, вырасьлі крыльлі, і пад восень уночы ў адказ на прывычны голас старой савы раптам засьвісталі ўсе чацьвёра рознымі галасамі. Значыцца, вылецелі маладыя совы.

## II. ПУГАЧ

— Пугача злавілі, — крыкнуў мне Лёнька, — дзед з дубальтоўкі падстрэліў. Крыху крыло папсаваў, але жывы застаўся. Цікавы!

— А дзе?

— За агародамі, у барку. Скарэй бяжэм!

Пугач спакойна сядзеў на пні, сам, як пень, тоўсты, а пер'і яго былі падобныя на кару старой хвоі.

Пучкі пер'яў з абодвых бакоў галавы ў пугача час-ад-часу шавяліліся.



— У яго гнязьдзе дзед учора заечую галаву сьвежую знайшоў, — казаў Лёнька. Зайца за ноч усяго злопаў, дык аб'еўся, ляцець ня мог. Гэтакае страшыдла!

— Вось дзе галавішча. А насішча які!

— Але, брат, дзяўбане, дык будзеш доўга памятаць. Ня лезь, Жук, ня лезь!

Але позна. Жук, злосна брэшучы, кінуўся на пугача, той зямятусіўся, сарваўся з прывязі і пабег.

Ён не чапляўся, уцякаў борзда, перабіраючы калматымі лапамі.

— Назад, Жук, — крычаў Лёнька, — ня руш!

У той міг, як зубы сабакі дакрануліся да пугача, ён перакуліўся на сьпіну і Жук адскочыўся з піскам. З морды яго буйнымі кроплямі капала кроў, але ён брахаў, бурчэў, кідаўся ў бойку з пугачом.

А той усё ляжаў на сьпіне, ціханька шавелячы касьцістымі лапішчамі, рыхтуючыся страшнай дзюбай зноў адбіць свайго ворага.

— Сам вінаваты, — пацяшаў Лёнька сабаку, — ня лезь куды ня трэба. Цяпер няма чаго скавытаць.

*ЗАГАДКА*

**ДЛЯ КАГО НОЧ НАСТАЕ, КАЛІ СОНЕЙКА ЎСТАЕ?**

# ШКОЛА ДЛЯ СЛАНОЎ

У ВЯЛІКІХ, густых лясох Афрыкі жывуць дзікія сланы. Слон вялікая, дужая жывёліна. Калі яго злавіць і прыручыць, ён можа рабіць усялякую цяжкую работу. Афрыка цяпер належыць французам, бэльгійцам, ангельцам. Усе багацьці краіны належаць ім. Буржуазія Англіі, Францыі, Бэльгіі стараецца як мага больш атрымаць прыбыткаў ад сваіх уладаньняў. Не забылася яна і аб „жывых трактарох“ — сланох.

У горадзе Апі бэльгійцы пабудавалі „школу“ для сланоў. Там дзікіх сланоў прывучваюць да сельскагаспадарчае працы.

Французы Гаардт, Дзюпрэ і расійскі мастак Якаўлеў, будучы ў Афрыцы, заехалі ў гэтую школу. Вось што яны расказваюць.

„Гэта школа ў Апі мае ўжо каля 30 год, але сланоў-„вучняў“ там нямнога, — усяго 30. Гэта таму, што злавіць слана і прывучыць яго вельмі цяжка.

„М‘бонго“ (так там называюць слана) павінен быць злоўлены ва ўзросьце ад 8-мі да 10-ці гадоў. Маленькі слон ня можа жыць без свае маткі, вялікі вельмі дужы, яго цяжка злавіць, а калі і зловіш, то навучыць яго чаму-небудзь траха што немагчыма. Да дваццаці год вялікай работы слон ня можа рабіць. У няволі сланы ня плодзяцца, таму маленькіх сланоў у школе няма. Слон жыве каля 200 гадоў.

Сам начальнік школы, Маньет, тоўсты, высокі, у шырачэзным адзеньні — падобен на слана.

Мы сядзім каля вакна. З берагу рэчкі, ля якой зьмяшчаецца школа, даносіцца голас:

„О-ле яла-яла,
Соро цібаі“...

— Чуеце, — кажа нам начальнік школы, — гэта мае індусы-карнакі сьпяваюць:

„Супакойся, маленькі брацік,
Усё пройдзе з часам,
Ці варта плакаць?
Месяц заўсёды даганяе сонца“...

— Што гэта ў вас, сьвята? — пытаемся мы ў „бацькі“ сланоў.

— Не, гэта праца. Супакойваюць толькі што злоўленага слана.

Ён, вядзе нас у памяшканьне для навічкоў. Там, прывязаны тоўстымі вяроўкамі да 4-х добра ўкапаных слупоў, тузаецца злоўлены сланёнак. Ён шалее. Вушы яго шырока растапыраны, хобат грозна ўзьняты. Вяроўкі трашчаць пад націскам яго цела. Вакол сланёнка стаяць „слановыя нянькі“ — індусы-карнакі. Яны сьпяваюць і размахваюць у тахт сьпевам пальмавымі лістамі.

— Гэта толькі што злоўлены, — тлумачыць нам пан-Маньет. Ён крыху ўзлаваўся, бедны. Але сьпевы, якія вы чуеце, супакояць яго, як малое дзіця. Слон сам таго не жадаючы, пачынае прыслухоўвацца да мернай, спакойнай песьні. Хутка ён ужо перастане тузацца: ён супакоіцца і засьне, як дзіця, якое матка калыша.

Мы глядзім, і праўда. Сланёнак прыціх, вушы апусьціліся, ён толькі пакручвае галавой у тахт сьпевам.

„Дзіця“ стала зусім спакойным. Яго маленькія вочкі заплюшчваюцца. Яно засынае. Першая лекцыя скончана.

Пасьля 2-3 месяцаў такога навучаньня сланёнак крыху прывыкае да людзей. Маладому „вучню“ даюць настаўніка — старога, ужо навучанага слана. Спачатку вучня прывязваюць да настаўніка, але потым ён прывыкае, і сам усюды бегае за вялікім сланом. Пераймаючы ўсё ад старога слана, малады прывучваецца ісьці на голас гаспадара, есьці ў вызначаныя гадзіны, ня „дурэць“ у часе купаньня.

Але вось сланёнак вырас. Яму 20



*Вушы яго шырока растапыраны, хобат грозна ўзьняты.*

гадоў. Ён зьядае 100 кілёграмаў лісьця, але затое можа выконваць працу за 60 чалавек, карчуе дрэвы, пні, цягне воз з грузам у 5 тон, цягне 12 плугоўадразу.

Пан-Маньет прыводзіць нас на роўнае месца і кажа:

— Калі я прыехаў сюды, тут быў лес, а цяпер тут ураджайныя палі. І ўсё дзякуючы працы сланоў.

◆◆◆◆◆◆◆◆◆

# „Ч О Р Т“

## (Сапраўднае здарэньне)




НЕЯК позна вечарам я сядзеў у хаце і рыхтаваў невялічкі дакладзік да гадавіны Чырвонай арміі. Гэты дакладзік я меўся зрабіць у сваёй школе.

Усе ў хаце паснулі. Я пачаў у голас рабіць свой даклад, уяўляючы, што гэта я ў школе перад вучнямі.

Даклад ішоў гладка, без запінкі. Падрыхтаваўся я ня кепска. Калі скончыў, паглядзеў на гадзіньнік. Было яшчэ толькі дзесяць гадзін. „Рана яшчэ“, падумаў я. „Трэба яшчэ песеньку вывучыць, а потым раскажу яе ў школе“.

Прачытаў раз песеньку і зірнуў у вакно.

— Ай, ай! Мама! Чорт!—закрычаў я з усяе моцы.

Чорная галава, лысая, з рагамі прыліпла да шыбы.

Пра чарцей мая бабка шмат гаварыла розных баек. Хоць я ня веру ў іх, ведаю, што іх няма, але чамусьці на гэты час забыўся аб усім.



На мой крык прачнуліся ўсе хатнія. Калі прыгледзеліся добра да „чорта“, дык аказалася, што гэта наша „галка“.

Удзень забыліся яе напаіць. Дык яна сама вылезла з катуха, адчыніла хлеў і прышла ад смагі лізаць мерзьлякі на шыбах.

Назаўтра, перш чым пачаць даклад, я расказаў пра гэтае здарэньне з „чортам“. Вучні з мяне пасьмяяліся:

— Вось, дзівак, чаго ты спалохаўся!

Вучань **І. Гарэлаў.**

в. Пераост.

# ДЗІЎНЫ ШЧУПАК

*Апавяданьне А. Лесавога.*

Юлік і Косьця праз усё лета любілі боўтацца ў рэчцы. Рэчка ўлетку вузенькая такая, маленькая. Толькі травы ды твані поўна. Але затое як зручна ў такой рэчцы лавіць рыбу! Аднаго разу ўзялі яны картафляны кошык ды пашлі на рэчку. Кошык невялічкі, лёгенькі. Косьця быў упраўнейшым, больш растаропным, ён заўсёды сам застаўляў кошык. Яго сябрук Юлік быў заганятым. Лавілі хлопцы больш за ўсё дробную рыбку: пяшкуроў, ёршыкаў.

Аднаго разу папаўся малым рыбаком вялізны шчупак. Ледзь у кашы зьмяшчаўся. Хлопцы віхрам вымчалі шчупака на бераг.

— Важны шчупак! — радуюцца малыя рыбакі. — Вось будзе чым пахваліцца дома!

Дома сьпярша ўсе па чарзе добра абмацалі шчупака, пахвалілі рыбакоў, а потым Косьця сам узяўся патрашыць яго. Спачатку абскроб, пачысьціў, а потым разрэзаў жывот, каб выціснуць кішкі і, галоўнае, дастаць „душу“.

„Душа“ у такога шчупака мелася быць з добры кулак і шлёпнуць ёю, гэта ўсё роўна, што стрэліць з сапраўднай вінтоўкі.

— Глядзеце, глядзеце — крычыць Косьця, — у шчупака яшчэ адзін шчупак! А вялікі-ж які!

Усе кінуліся паглядзець новага шчупака. І асьцярожна Косьця дастаў з шчупаковага жывата другога шчупака.

Нават бацька і той ня стрываў, каб не пацікавіцца.

— Рэж жывот і гэтаму, — кажа бацька. — Тут яшчэ, мусіць, ёсьцека. Гэта бывае.

Косьця разрэзаў жывот новаму шчупаку.

— Зноў шчупак! — крычыць ён.

— Рэж яшчэ, — кажа бацька.

Разрэзалі — зноў, ужо трэці шчупак!

І так пяць шчупакоў з аднаго дасталі...

— Як гэта здарылася так? — пытаецца зьдзіўлены Косьця ў бацькі.

— Шчупак, — кажа бацька, — рыба такая, што есьць другія рыбы і гэтым жыве. А тут сталася тое, што кожны шчупак зьеў другога шчупака, а потым зьелі і яго самога.

Дзяцей такая дзівота вельмі зацікавіла.

— Я не разумею, — перапытвае Косьця.

— Тут і разумець мала чаго трэба. Гэта вельмі проста магло здарыцца. Раніцай, чуць сьвет, выскачыў з твані маленькі шчупачок. Ён ужо некалькі дзён як меў спажыву. Выгаладаўся за гэты час. Каб заспакоіць свой жывот, ён кінуўся на другога шчупака, меншага за яго, і праглынуў. Але, глытаючы сваю ахвяру, шчупачок так захапіўся, што і ня чуў як да яго падскочыў большы шчупак. Той так-жа

сама прагаладаўся і шукаў, каб дзе чым пажывіцца. Нерастаропны шчупачок, які толькі што добра пасьнедаў, стаў ахвярай другога галоднага шчупака. А на гэтага наскочыў новы, большы, дужэйшы, і таксама зьеў яго. Вось як яно ўсё рабілася. І нарэшце ўжо чацьвертага шчупака зьеў гэты, што вы злавілі. Зьеў, палез пад камень адпачываць. Цяпер яго ня мучыў голад. Ён спакойна спаў сабе, пакуль не наскочылі на яго вы.

— Каб праверыць, што гэта так, можна жывога шчупака ўпусьціць у бутэльку і ўкінуць да яго меншых рыбак. Шчупак накінецца на меншых і пачне глытаць іх, — скончыў бацька.

# Мы абяцаем

Мы — Алеска, Янка, Зорка —
Падпісалі ўмову:
Не сварыцца, не дражніцца,
Ня біцца нікому.

Памагаць на кухні маме,
Чысьціць зубы парашком,
Не цягаць за хвост сабаку,
Ня шпурляць у твар пяском.



Паліваць у скрынках кветкі,
Зерне курам пасыпаць,
Рана ўстаўшы, чыста мыцца,
І, як ляжам, моцна спаць.

Мы ўсе—тата, мама, дзедка—
Абяцанку вам даем:
Што ў ачаг пасьля нядзелі
Усіх траіх вас завядзем.

Абяцаем вашы рэчы —
Цацкі, кубікі, пясок —
Ня выкідываць на сьметнік,
А наладзіць вам куток.



Вось я — шофэр ў акулярах,
Абяцаю вас вазіць,
І ў гудок гучны, басісты
Я дазволю вам трубіць.

Я — адважны дворнік Тодар —
Абяцаю дазваляць:
Чысьціць вуліцу рыдлёўкай,
Ў скрынку попел сабіраць.

Пераклад В. С.



# ДОБРЫ ПРЫКЛАД

**Апавяданьне К. ДМІТРАВАЙ** **Мал. Д. ЖУРАВІЦКАГА**

Многа дзяцей жыве ў Жакт'е № 4—і піонэры, і акцябраты, і дзеткі-малалеткі. Але сумна дзецям бяз гурту, вольнага часу ў іх шмат. Звычайна заданьні свае яны вывучаюць хутка. Звыклі ўжо да колектыву: няма лепш, як быць усім у гурце.

Вось і надумала піонэрка Тацянка згуртаваць усіх дзяцей.

Склікала яна іх аднаго разу на дварэ і кажа:

— Нам трэба зьбірацца вечарамі разам хоць на дзьве гадзіны. Я буду вам чытаць, будзем маляваць, гутарыць... хочаце?

— Ясна, ясна, хочам!—радасна адгукнуліся дзеці. Акружылі яны Тацянку і прасілі, як найхутчэй наладзіць гэту справу.

— Добра, добра. Толькі спачатку трэба пакой падшукаць, дзе мы будзем зьбірацца,—кажа Тацянка.



Пашла яна да старшыні Жакту і расказала пра жаданьне дзяцей.

Старшыня выслухаў яе і кажа:

— Ты добрую справу задумала Тацянка. Трэба для дзяцей „чырвоны куток“ наладзіць. Вось пачакай крыху, я абавязкова зраблю гэта.

Зарадаваліся дзеці і пачалі чакаць „чырвонага кутка“.

— Пакуль нам дадуць пакой, прыходзьце заўтра да мяне і пачнем працаваць,—прапанавала дзецям Тацянка.



На другі дзень кожны ў сваёй школе апавядаў, як яны цяпер будуць праводзіць вольны час: не па аднаму, а колектывам, у гурце. Вучні слухалі іх і думалі, што і сапраў-

ды добра зрабілі ў тым Жакт'е. Бо ў гурце ўсім весялей.

Ледзь прычакаліся дзеці 5-й гадзіны, калі трэба было зьбірацца да Тацянкі. Аж 18 дзяцей прышло да яе.

Сымонка ўнёс прапанову паслаць суседняму Жакту просьбу, каб і там дзеці згуртаваліся і пачалі колектывам праводзіць свой вольны час.

— Правільна!—адказалі дзеці.

## ПІОНЭР, ПАЛІСМЭН І БАШМАКІ.

*(Жарт).*









ЦІ ВЫПІСАЎ ТЫ НА ЛЕТНІ ЧАС „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“?

ВЫДАВЕЦТВА ЦК АКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдкалегія: ГАРБУЗ П. (адк. рэдактар)
РАЦЭВІЧ В. ЯКІМОВІЧ А. (адк. сакратар)

762
П 29
56

ЦАНА 18 КАП.



У жніўні ў Менску адкрываецца Ўсе-беларуская выстаўка сельскай гаспадаркі, прамысловасьці і культуры. На фотографіі — пабудова памяшканьняў для выстаўкі.

## ЗАГАДКІ-ПЫТАНЬНІ

**1. Калі ключы па небе лятаюць?**

**2. Колькі бульбін у гаршчок увойдзе?**

**3. Калі можна ў рэшаце ваду насіць?**

**4. Які агонь не пячэцца?**

**5. Якая вада на вадзе плавае?**

**6. Які дзень найдаўжэйшы?**

**7. Што трэба зрабіць казе, каб яна стала казаком?**

**8. Ад чаго гусяняты пачынаюць плаваць?**

**9. Ці можа дождж ісьці два дні?**

**10. Як напісаць „сухая трава“ чатырма літарамі?**

## АДКАЗЫ НА ЗАГАДКІ З № 4.

*1. Жорны.*
*2. Ногі.*
*3. Іголка.*
*4. Засланка.*
*5. Макаўка.*
*6. Зубы.*
*7. Язык.*
*8. Парасон.*
*9. Колы.*
*10. Пчолы.*

**Шарады.**

*1. Сто-л.*
*2. Мала-ток.*



*Дзе схаваўся хлопчык.*

... № 1887 ... 3.000 экз. Галоўлітбел № 2022.